Беларускі калегіум

# HOMO HISTORICUS 2016

## Гадавік антрапалагічнай гісторыі

Пад рэдакцыяй
доктара гістарычных навук Аляксандра Смаленчука

ISSN 2424-5216
ISSN 2424-5224 (Online)

Рэдактар
доктар гістарычных навук Аляксандр Смалянчук

Рэцэнзенты:
доктар гістарычных навук Захар Шыбека, Універсітэт у Тэль-Авіве;
доктар Рымантас Мікніс, Інстытут гісторыі Літвы (Вільня);
доктар гістарычных навук Аляксандр Краўцэвіч, Варшаўскі ўніверсітэт;
доктар хабілітаваны Ганна Энгелькінг, Інстытут славістыкі
Польскай акадэміі навук (Варшава)

**Homo Historicus 2016.** Гадавік антрапалагічнай гісторыі / пад. рэд. Аляксандра Смаленчука. – Вільня: Беларускі калегіум, 2016. – 222 с.

*Homo Historicus 2016* працягвае традыцыі трох першых тамоў (2008, 2009 і 2012 гг.) з іх арыентацыяй на пашырэнне антрапалагічнага стылю мыслення ў аналізе мінулага. Большасць апублікаваных матэрыялаў датычыць феномену памяці ў самым шырокім яго разуменні.

ISSN 2424-5216
ISSN 2424-5224 (Online)

# З'ЯЎЛЕННЕ МОГІЛАК. РЭФОРМА МЕСЦАЎ ПАХАВАННЯ НА БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯХ КАНЦА XVIII – ПАЧАТКУ XIX ст. У АНТРАПАЛАГІЧНАЙ ПЕРСПЕКТЫВЕ

***Сяргей Грунтоў***

*канд. гіст. навук (Менск)*

***Summary***

The article deals with social and cultural aspects of the reform of burial places in Belarus in the end of the 18th – start of the 19th centuries. The reform is shown as a part of the same processes that took place in Europe in the second half of the 18th century. These changes gave start to the modern type of cemeteries and deeply influenced social topography development. As a result, new forms of burial monuments were elaborated, as well as the new memorial language. These new ways of expression were used in social conflicts that tormented the whole region in the course of the 19th century. Cemetery started to function as a public area suitable for manifestation of family wealth, firm political and religious viewpoints.

Канец XVIII – пачатак XIX ст. для беларускіх земляў адзначыўся значнымі сацыяльнымі, палітычнымі і культурнымі зрухамі, сярод якіх амаль незаўважанай прайшла рэформа месцаў пахавання. Згадкі пра яе зрэдку сустракаюцца ў даследаваннях, прысвечаных гісторыі некропаляў[1] ці канфесійнай гісторыі[2]. Яна фактычна застаецца невядомай, ужо не гаворачы пра аналіз тых наступстваў для сацыяльнай тапаграфіі, канфесійнай і сацыяльнай гісторыі, да якіх яна прывяла. Ніжэй я паспрабую запоўніць гэту лакуну наколькі гэта магчыма ў межах аднаго артыкула.

Трэба пачаць з адказу на пытанні: чаму рэформа прайшла непрыкметна? Чаму пакінула ва ўспамінах су-

часнікаў так мала месца, як мала яна цікавіла і пазнейшых даследчыкаў? На гэта пытанне не знойдзецца простага адказу. Трэба прызнаць, што справа тут у цэлым комплексе прычын. Адна з іх была названа вышэй, менавіта насычанасць эпохі, калі праходзіла рэформа, значнымі сацыяльна-палітычнымі падзеямі, якія ў пэўнай ступені засланілі сабою менш маштабныя. Па-другое, вялікае значэнне меў характар самой рэформы. Справа ў тым, што яе практычная рэалізацыя аказалася расцягнутай у часе. Заканадаўчыя акты прымаліся паўторна, пацвярджаючы малую эфектыўнасць папярэдніх. Быў відавочным вялікі разлом паміж прынятымі законамі ды іх рэалізацыяй на практыцы. Па-трэцяе, паўплываў маргінальны характар аб'екта рэформы. Месцы пахавання былі выціснутыя на перыферыю дыскурсу (як, дарэчы, і сёння), і любыя дзеянні ў дачыненні да іх выклікалі слабую рэакцыю і зацікаўленасць. Могілкі яшчэ не занялі таго месца ў свядомасці сучаснікаў, як гэта сталася з пашырэннем рамантызму і пасля яго. Па-чацвёртае, сама рэформа не мела такога радыкальнага характару, як у Заходняй Еўропе. Яна не была звязана з фізічнай ліквідацыяй старых гарадскіх некропаляў, выкопваннем і перанясеннем парэшткаў у адмысловыя месцы. Урэшце, мае значэнне і намінатыўная "адсутнасць" рэформы. Яна не была названа словам "рэформа" (традыцыйна пафасным для палітычнага дыскурсу Расійскай Імперыі).

У поўнай меры значэнне ўсёй сітуацыі з "выгнаннем памерлых" было ўсвядомлена толькі навукоўцамі, што працавалі ў галіне гістарычнай антрапалогіі ў другой палове XX ст. Піянерам такіх даследаванняў прынята лічыць Філіпа Ар'еса і яго даследаванне "Чалавек перад тварам Смерці", дзе ўся 11 глава прысвечаная ўзнятай намі праблеме[3]. Ён жа выкарыстаў вызначэнне "рэформа" да зменаў у пахавальных практыках на Захадзе ў апошняй чвэрці XVIII – пачатку XIX ст[4].

У большасці еўрапейскіх краін яшчэ напярэдадні Вялікай французскай рэвалюцыі былі прыняты заканадаўчыя акты, якія радыкальна рэфармавалі існаваўшыя прынцыпы правядзення пахавання. Напрыклад, у Францыі гэта адбылося ў 1765 г. (для Парыжа) і ў 1776 г. – для тэрыторыі ўсяго каралеўства[5]. У Швецыі – у 1783 г., у Аўстрыйскай Імперыі – у 1786 г., у тым жа годзе – у Іспаніі[6], у Рэчы Паспалітай – параўнальна позна, толькі ў 1792 г.[7]

Расійская Імперыя эпохі Кацярыны II, як вядома, знаходзілася пад моцным уплывам ідэй французскага Асветніцтва, таму тут даволі рана былі ўведзены змены ў прынцыпы арганізацыі месцаў пахавання. Трэба адзначыць, што першая спроба абмежавання пахавання ў гарадах была зроблена яшчэ царом Пятром I у 1723 г., калі выйшаў указ аб забароне пахавання памерлых у гарадах, за выключэннем "знатных асоб". Астатніх прапаноўвалася вывозіць

на пахаванне да кляштараў і да прыхадскіх цэркваў[8]. Гэты ўказ не меў універсальнага дзеяння для ўсіх саслоўяў і выконваўся даволі адвольна.

Фактычна сапраўдная рэформа могілак пачалася толькі з указам 19 траўня 1772 г. Ён абавязваў *"могілкі адводзіць за горадам на выганных землях"* і *"каб тыя могілкі ствараліся ў зручных месцах, адлегласцю ад апошняга гарадскога жылля па меншай меры не бліжэй за 100 сажняў, а калі месца дазволіць, то хаця б 300 сажняў, і калі не плятнём ці плотам, то земляным валам загадаць іх абносіць, толькі каб гэты вал не быў вышэйшы за два аршыны, каб праз гэта такія месцы паветрам хутчэй ачышчаліся"*[9]. У тым жа годзе былі падпісаныя дадатковыя ўказы. Адзін абавязваў купецтва і гарадскіх жыхароў узяць на сябе выдаткі па стварэнні новых могілак, другі – уводзіў адказнасць для святароў за пахаванне памерлага не на новых могілках, а пры царкве ў населеным пункце[10].

Прынятыя заканадаўчыя акты сталі асновай рэформы месцаў пахавання і арганізацыі новых могілак. Іх асноўныя прынцыпы практычна без змен паўтараліся ў наступных указах, якія фактычна дублявалі ранейшыя палажэнні. У 1817 г. яны былі паўтораныя ў дачыненні да сельскіх могілак[11] (у межах закона аб упарадкаванні гарадоў і паселішчаў), а ў 1818 г. – у законе аб упарадкаванні цэркваў, царкоўных агароджаў і могілак[12].

Лёгка заўважыць, што зацверджаныя заканадаўчыя акты мелі менш жорсткі характар, чым іх заходнееўрапейскія аналагі. Па-першае, яны прадугледжвалі закрыццё, а не ліквідацыю старых могілак, што было абумоўлена некалькімі фактарамі. Адзін з іх – праваслаўнае царкоўнае права, якое вельмі негатыўна ставілася да выкопвання ці перапахавання парэшткаў[13]. Дарэчы, па гэтай прычыне праваслаўным было значна цяжэй атрымаць спецыяльны дазвол на перапахаванне, чым каталікам. Другі – характар могілак дамадэрнай эпохі. Прыхрамавыя могілкі (цвінтары), якія з'яўляліся асноўным месцам пахавання для гарадскіх і местачковых жыхароў хрысціянскага веравызнання, звычайна не мелі трывалых помнікаў, а толькі іх традыцыйныя драўляныя формы – крыжы і калоды. З-за іх нетрываласці не заставалася слядоў ад ранейшых пахаванняў. Адпаведна, дастаткова было проста на некаторы час закрыць пахаванне на прыхрамавай тэрыторыі, каб яна паступова стала нагадваць звычайны зарослы травою пляц. Прыхрамавыя могілкі, такім чынам, знікалі візуальна. Адначасна знікала і памяць пра іх, а разам з ёю і адчуванне патэнцыйнай небяспекі ў санітарных адносінах.

Трэці фактар – параўнальная маланаселенасць беларускіх гарадоў і мястэчак. Цвінтары хоць і былі запоўненымі, але спраўляліся з натуральным кругаваротам пакаленняў, таму не ўзнікала патрэбы ствараць калектыўныя магілы

для пахавання беднаты ці асуарыі для захавання неперагнілых костак, як у многіх краінах Заходняй і Цэнтральнай Еўропы[14].

Іншай прычынай "лагоднасці" расійскай рэформы стала захаванне моцнага канфесійнага і традыцыйнага фактару ў стварэнні новай сістэмы месцаў пахавання. На новых могілках прадугледжвалася наяўнасць цэркваў і капліц, хоць закон не прапісваў іх як абавязковыя. Такім чынам, захоўвалася калі не практыка, то прынцып месца пахавання як прыхрамавай тэрыторыі. Акрамя таго, заставаліся традыцыйныя хрысціянскія практыкі правядзення пахавання на новых могілках.

Гэта можа падацца натуральным, але ў іншых краінах так было не заўсёды. Напрыклад, прынятыя ў Аўстрыі законы прадугледжвалі правядзенне пахавання ўначы і без удзелу сваякоў на могілках па-за межамі горада[15]. Пазней гэтыя радыкальныя новаўвядзенні былі злагоджаны, але менавіта такім чынам быў пахаваны, напрыклад, Моцарт. У гэтай перспектыве расійскае паўтарэнне еўрапейскага ўзору мела толькі частковы характар і пазбягала занадта радыкальных элементаў.

Расійскае заканадаўства пашырылася на беларускія землі разам з правядзеннем падзелаў Рэчы Паспалітай. Адпаведна, уступілі ў дзеянне новыя прынцыпы арганізацыі месцаў пахавання. Яны дубляваліся на лакальным узроўні ў розных пастановах і распараджэннях па лініі губернскіх упраўленняў і духоўных ведамстваў. Так, у 1797 г. у Менска-Валынскай епархіі было распаўсюджана спецыяльнае распараджэнне *"Аб забароне пахавання пры цэрквах целаў памерлых і аб адвядзенні месцаў на могілках"*. Спецыяльнай нагодай для гэтага стаў аб'езд епархіі новым архіепіскапам, які адзначыў, што *"пры аглядання маім тутэйшай Епархіі цэркваў угледжана мною, што ва многіх мястэчках і сяленнях пры цэрквах на цвінтары хаваюць мёртвыя целы без усялякага парадку так, што са складанасцю і ў царкву прайсці па прычыне многіх магіл і калодаў, што на іх ляжаць, якія накладаюцца па мясцовым звычаі"*[16]. У шэрагу распараджэнняў па асобных прыходах епархіі асаблівы акцэнт рабіўся на згаданыя калоды. Так, Слуцкае духоўнае праўленне распарадзілася, каб *"цвінтары агароджаныя былі і каб на цвінтарах не ляжалі па магілах ніякія гнілыя калоды"*[17]. Відавочна, мясцовы звычай прыкладзінаў выклікаў асацыяцыі з паганскімі перажыткамі, з якімі праваслаўная царква вяла беспаспяховае змаганне.

У законе не было прапісана, хто павінен быў выдзяляць зямлю для арганізацыі новых могілак. Мелася на ўвазе, што гэта павінна быць клопатам самой лакальнай супольнасці. Часам зямлю ахвяраваў са сваіх уладанняў мясцовы памешчык, часам яна вылучалася з дзяржаўных ці касцельных уладанняў.

Непрывабны стан могілак, які раптам усвядоміла гэткім пакаленне, выхаванае на ідэях Асветніцтва, быў уласцівы як для гарадскіх, так і для вясковых могілак незалежна ад іх канфесійнай прыналежнасці. Так, вядома, што могілкі вакол гарадзенскай Фары выглядалі занядбана ў 80-я гг. XVIII ст.[18], пра што сведчыць малюнак Ганны Тышкевіч (хоць яго і нельга прымаць за дакладную іканаграфічную крыніцу)[19]. Магчыма, некаторае выключэнне маглі складаць габрэйскія могілкі, якія традыцыйна знаходзіліся па-за гарадской мяжой, пакуль мяжа паступова не падыходзіла да іх, дзе ўзвышаліся каменныя і драўляныя мацэвы, апошнія часта са складанай разьбою. Прынамсі, Роберт Джонстан у сваіх падарожных нататках за 1814 г. пісаў пра *"велічнае (magnificent) месца пахавання габрэяў"*[20] пад Менскам. Не да канца ясна, што канкрэтна ўразіла аўтара, але, хутчэй за ўсё, з улікам ужытага слова "magnificent", не толькі памеры некропаля.

Справа не абмяжоўвалася ўласна могілкамі і цвінтарамі. Іншым тыпам пахаванняў, які выклікаў незадаволенасць новых улад і падлягаў ліквідацыі, былі крыптавыя пахаванні. Да канца XVIII ст. яны былі вельмі пашыранымі. Для гэтага выкарыстоўваліся крыпты большасці касцёлаў і значнай часткі ўніяцкіх цэркваў. Такія пахаванні былі звязаныя з катэгорыямі прэстыжу, высокіх прыступак сацыяльнай іерархіі. Іх маглі дазволіць сабе нямногія абраныя і, у першую чаргу, прадстаўнікі сям'і фундатара храма. Крыптавыя пахаванні і нярэдка шыльды сімвалічна маркіравалі прысутнасць і тэрытарыяльна-маёмасныя правы асобных родаў на канкрэтнай тэрыторыі. Разам з тым, у адрозненне ад могілак і цвінтароў, імі карысталася параўнальна нязначная колькасць насельніцтва з прывілеяваных слаёў.

Кантэкст негалосных інтэнцый, заключаных у рэформе, вельмі важны для разумення яе сутнасці і наступстваў. Яе дэнатацыі былі акрэслены ў санітарна-медыцынскіх катэгорыях, у той час як канатацыі заключалі ў сабе праяву канфлікту паміж уладай дзяржавы (новай для разгляданых тэрыторый) і традыцыйнай уладай мясцовай арыстакратыі і кліру. У антрапалагічным сэнсе мы сутыкаемся тут з сітуацыяй сімвалічнага гвалту, сітуацыяй, калі аб'ектам гвалту становяцца сімвалы і значэнні.

Такая сітуацыя вельмі часта папярэднічае гвалту фізічнаму, і тая, што разглядаем мы, не стала выключэннем. "Высяленне" памерлых прадстаўнікоў арыстакратыі з храмавых крыптаў стала адной з першых праяваў наступу на статус і ўладу ў краі ўсёй гэтай сацыяльнай страты. Раней наяўнасць фундаванага храма і пахавальні на сімвалічным, сакральным узроўні замацоўвала права роду на рэалізацыю ўлады над рэгіёнам і яго насельніцтвам. Цяпер гэты прынцып быў разбураны. Пахаванне трэба было праводзіць на агульных но-

вых могілках. Тое ж прасочваецца і на ўзроўні сацыяльнай тапаграфіі, менавіта тыя, хто раней займаў цэнтральнае месца – у храме ў цэнтры населенага пункта, – цяпер павінны былі "пераехаць" на ўскраіну, за межы пасялення і такім чынам сімвалічна прыняць свой маргінальны статус у настваранай сістэме ўладных іерархій.

У аналагічных катэгорыях можна апісаць сімвалічны гвалт у дачыненні да канфесійных структур – пераважна каталіцкіх і ўніяцкіх на разгляданы перыяд. Сама ідэя "бруднасці" пахаванняў і шкоды ад іх нарадзілася ў секулярызаванай свядомасці інтэлектуалаў XVIII ст., захопленых ідэямі Асветніцтва. Яна выводзіла асобу памерлага за межы сакральных катэгорый, акцэнтавала яго фізічны складнік і навязвала пашырэнне ўлады дзяржавы на цела памерлага, якая да гэтага пераважна была манаполіяй сям'і і царквы/касцёла.

"Начынне" храма (размешчаныя ў яго крыпце пахаванні) і яго атачэнне (цвінтар) раптам аказаліся "бруднымі". Свайго піку гэта тэндэнцыя дасягнула ў 1830-я гг., калі атрымала пашырэнне ідэя ўзвядзення на могілках *"будынкаў для размяшчэння памерлых да пахавання"*[21], узор для якой быў запазычаны на лютэранскіх могілках[22]. Такія будынкі першапачаткова павінны былі мець выключна ўтылітарны характар, але пад ціскам праваслаўных іерархаў з'явілася і сакральная функцыя. Было дазволена размяшчэнне ўнутры абразоў і правядзенне малебнаў, у выніку чаго "будынкі" ператварыліся ў *"капліцы для захавання нябожчыкаў"*. Тым не менш яны ўсё ж мелі падвоены статус, і ўтылітарны складнік, бадай што, дамінаваў.

Нельга разглядаць названыя працэсы выключна ў катэгорыях секулярызацыі, менавіта як праяву паступовага дамінавання свецкага над царкоўным. Царква даволі паспяхова адстойвала свае пазіцыі і таксама выкарыстоўвала могілкі як інструмент уладных канфліктаў, у першую чаргу ў міжканфесійных супрацьстаяннях. Традыцыйна канфесійная прыналежнасць азначала адняссенне асобы да пэўных могілак. У якасці натуральнага прымалася пахаванне асобы на могілках сваёй канфесіі. У пачатку XIX ст. гэта стала адным са спосабаў супрацьстаяння экспансіі праваслаўнай царквы ў канфесійнае жыццё зямель былога Вялікага Княства Літоўскага. Так, пры жаданні (пакуль гэта яшчэ было справай добрай волі, а не падпарадкавання і гвалту) асоба магла перайсці з грэка-каталіцтва ў праваслаўе, але дзе яна павінна была быць пахаваная па смерці пры адсутнасці праваслаўных могілак?

Напрыклад, у рапарце праваслаўнага святара вёскі Парэчча Ігуменскага павета Стэфана Занцэвіча на імя Менскага і Гарадзенскага біскупа Яўгена (1834) мы знаходзім скаргу на памешчыка Іосіфа Грушвіцкага, які забараніў хаваць памерлага праваслаўнага селяніна на мясцовых грэка-каталіцкіх могіл-

ках і загадаў перанесці цела для пахавання за пяць вёрст у вёску Вітрэвічы. Паводле С. Занцэвіча, такім чынам Грушвіцкі *"пераконвае просты народ, што хрысціянін праваслаўнага вызнання нягодны таго, каб быць пахаваным там, дзе пахаваныя целы памерлых людзей уніяцкага вызнання, чым вельмі абцяжарвае праваслаўных асоб, так як бачна з дайшоўшых да мяне ад іх скаргаў, дае немалую нагоду праваслаўным асобам пакінуць праваслаўнае грэка-расійскае веравызнанне, а прыняць уніяцкае, а з іншага боку, робіць немалую перашкоду для далучэнння ўніятаў да праваслаўя"*[23].

У гэтым і падобных канфліктах улада звычайна станавілася на бок "пакрыўджаных", а грэка-каталіцкія і рыма-каталіцкія іерархі выдавалі распараджэнні аб "нечыненні перашкодаў", але можна меркаваць, што "могілкавы" аргумент быў даволі дзейсным у міжканфесійным супрацьстаянні.

Тое ж датычыла стасункаў паміж праваслаўнымі і рыма-каталікамі. У тым жа 1834 г. праваслаўнай шляхцянцы Ганне Фёдараўне Ноздрынай з ваколіцы Відзібор (цяперашні Столінскі раён), якая была замужам за каталіком, ксёндз з суседняга Асаўца не дазволіў пахаваць яе памерлую маленькую дачку на каталіцкіх могілках, у той час як дарога да бліжэйшых праваслаўных могілак была размытая непагаддзю. Не дазволіў ён таксама пакінуць труну ў касцёле да прыезду мужа. У выніку маці павінна была пахаваць сваю дачку без адпявання з дапамогай мясцовых сялян пасярод суседняга поля[24]. Міне ўсяго трыццаць год, і сітуацыя зменіцца на цалкам супрацьлеглую. Дазвол на адкрыццё могілак ці пабудову капліцы-пахавальні стане дзейсным інструментам рэпрэсій царскіх уладаў супраць мясцовага каталіцкага насельніцтва.

Сказанае вышэй сведчыць, што могілкі былі важным элементам рэпрэзентацыі і рэалізацыі ўлады розных сацыяльных груп. Праведзеная ў канцы XVIII – пачатку XIX ст. рэформа акрамя санітарных мэтаў пакліканая была аказаць заўважны ўплыў на рэпрэзентацыю традыцыйных уладных груп у сацыяльнай тапаграфіі. Але і самі гэтыя групы, шляхта і клір выпрацоўвалі культурныя адказы на падобнага кшталту дзеянні. Могілкі новага тыпу, якія ўзніклі ў выніку правядзення рэформы, можна расцэньваць як адну з выразных форм такога адказу.

Прастора новых могілак паступова пачала фарміравацца як месца рэпрэзентацыі заможнасці і сацыяльнага статусу сем'яў і родаў, звязаных з пэўнай тэрыторыяй звычайна праз спадчынныя ўладанні. Сам факт з'яўлення новых умоў рэпрэзентацыі знізіў фінансавы парог магчымасці ўдзелу ў ёй. Калі раней магчымасць рэпрэзентацыі сябе і свайго роду ў храмавай прасторы была даступная пераважна пры ўмове складання фундуша на карысць царквы/касцёла ці ў выпадку прыналежнасці да высокіх прыступак іерархіі ў кліры, то

цяпер новая прастора могілак давала аднолькавыя магчымасці для ўсіх ахвотных пры ўмове параўнальна невялікіх фінансавых укладанняў.

Трэба адзначыць, што магчымасць крыптавага пахавання ў XVI–XVIII стст. была большай, чым магчымасць размяшчэння мемарыяльнай шыльды на сценах малітоўнай залы, аднак такі тып пахаванняў звычайна не выконваў рэпрэзентацыйных функцый, не выступаў як сацыяльная прастора, даступная для агляду шырокімі коламі зацікаўленых. Тое ж, як было сказана вышэй, датычыла і пахаванняў на цвінтары вакол храма.

У антрапалогіі добра вядома, што сфера пахавальна-памінальных практык з'яўляецца адной з найбольш кансерватыўных у культуры[25]. Нават для сацыяльных груп, якія знаходзіліся на версе сацыяльнай іерархіі, змены гэтыя адбываліся марудна, асабліва ў параўнанні са зменамі ў модзе, эстэтыцы ды інш. Нельга сцвярджаць, што новы могілкавы ландшафт з'явіўся *ex nihilo*. Ён марудна раскрываў закладзены ў яго рэформай і новымі сацыяльнымі ўмовамі семантычны патэнцыял. Дамінуючымі па-ранейшаму заставаліся драўляныя крыжы, але паступова пачалі з'яўляцца новыя мураваныя помнікі.

Лексікон форм гэтых помнікаў часткова быў запазычаны з ужываных раней на тэрыторыі Рэчы Паспалітай (калоны, абеліскі, надмагільныя слупавыя капліцы, пліты), а часткова быў пераняты з заходнееўрапейскіх, у першую чаргу французскіх, узораў, сфарміраваных пад уплывам эпохі класіцызму. Калі паспрабаваць вылучыць асноўную рысу новых помнікаў, то можна прыйсці да высновы, што гэта – вертыкальная арыентацыя. Канешне, яна і раней была прадстаўлена ў традыцыйных драўляных крыжах, аднак асобны крыж не вылучаўся як дамінанта з-за знаходжання ў атачэнні падобных сабе і, галоўнае, з-за нетрываласці. Гэтая нетрываласць дрэва як матэрыялу была адной з прычын занядбанага выгляду могілак, запоўненых драўлянымі крыжамі, большасць якіх нахілілася ці ўвогуле ляжала на зямлі, як гэта вядома па ілюстрацыях вясковых могілак XIX і першай паловы XX ст[26].

Калі пакінуць убаку драўляныя крыжы, то адной з базавых характарыстык шляхецкага надмагілля часоў Рэчы Паспалітай на тэрыторыі Беларусі была яго плоскасць. Часцей за ўсё гэта была пліта, якая ўмуроўвалася ў сцяну ці радзей у падлогу храма. У некаторых выпадках гэта магла быць шыльда, што закрывала адтуліну нішы, у якую ставілася пліта ў крыпце (Камаі)[27]. Значна радзей выкарыстоўваліся скульптурныя элементы, але яны ў большасці выпадкаў былі прывязаныя да плоскаснай кампазіцыі (мемарыяльныя помнікі Радзівілаў у інтэр'еры Фарнага касцёла ў Нясвіжы). Прычынай такога пласкаснога рашэння была прынцыповая злучанасць надмагільнага помніка са сцяною ці падлогай храма. У новых умовах сцяна, як фундаментальная частка

арганізацыі помніка, знікла і з'явілася патрэба стварэння новых форм выразнасці, заснаваных на выкарыстанні толькі гарызантальнай паверхні зямлі на могілках.

Менавіта таму такое пашырэнне атрымалі вертыкальныя мураваныя помнікі ў форме пілонаў ці калон, якія ідэйна развівалі вядомыя раней формы прыдарожных капліц, мемарыяльных калон і абеліскаў. Такія помнікі мелі значную вышыню – каля двух метраў – і стваралі высотныя дамінанты на новых могілках. Пры гэтым выразна прасочвалася сувязь з ранейшым храмавымі помнікамі. Абавязковым элементам мураванага вертыкальнага помніка была шыльда, якая мацавалася ў пярэдняй яго частцы і відавочна адсылала да традыцыі размяшчэння падобных шыльдаў, толькі большага памеру, у інтэр'еры храма.

Разам з мураванымі помнікамі папулярнасць атрымалі вялікія надмагільныя камяні з выбітымі на іх разгорнутымі эпітафіямі. Аднак, верагодна, самым важным адказам на новыя ўмовы стала развіццё сістэмы капліц-пахавальняў. Калі стала немагчымым правесці пахаванне ў храме як у цэнтры населенага пункта, то замест гэтага можна было збудаваць сабе невялікі храм на новых могілках ці проста пры ўласнай сядзібе і там праводзіць пахаванні.

Яскравым прыкладам можа служыць архітэктурная спадчына мястэчка Узда. У канцы XVIII ст. яно перайшло ва ўладанне Завішаў[28]. Казімір Завіша ў 1798 г. пабудаваў новы драўляны касцёл на падмурках старога. У падмурках знаходзілася крыпта, якая служыла для пахаванняў папярэднім уладальнікам Узды[29], аднак па новых санітарных правілах праводзіць пахаванні ў ёй было немагчыма. Новым уладальнікам у 1800 г.[30] давялося будаваць капліцу-пахавальню на новых парафіяльных могілках, закладзеных за адну вярсту на ўсход ад Узды, пры дарозе, якая вяла да іншага іх маёнтка Кухцічы.

Узведзеная Завішамі капліца і сёння можа выклікаць здзіўленне. Гэта вялікая піраміда, якая ўзвышаецца над вяршалінамі старых сосен на уздзенскіх могілках. Цікава, што візітатар 1829 г. не знаходзіў адпаведных словаў для яе апісання і пазначаў, што *"kaplica z kamieni murowana w figurze kolumny bez dachu, ale aż w sam wierzch do krzyża z kamienia murowana"*[31]. Унутры піраміды знаходзіўся алтар, інтэр'ер быў аздоблены выказваннямі з Бібліі, нанесенымі на сцены, а непасрэдна ў сценах малітоўнай залы знаходзілася 27 ніш для пахавання памерлых[32]. Узвядзенне піраміды-пахавальні стала адной з праяваў такой тэндэнцыі ў еўрапейскай культуры, як "егіптаманія", якая атрымала асабліваe пашырэнне пасля Егіпецкай кампаніі Напалеона[33].

Так, выцясненне на перыферыю сацыяльнай тапаграфіі стала пачаткам фарміравання новых локусаў рэпрэзентацыі заможнасці і сацыяльнага ста-

туса. Эфект гэты добра вядомы ў гісторыі культуры – ад Авідыя ў Томах да Лотмана ў Тарту, менавіта выхад на перыферыю і стварэнне там новага цэнтра.

Аналагічныя капліцы (але ў больш кансерватыўных формах) сталі ўзводзіцца ва ўсіх беларускіх і літоўскіх губернях. Паступова развівалася і новая культура некропаляў як месцаў, якія стала прынята рэгулярна наведваць. Адпаведная ўвага надавалася і надмагіллям. У публічнай прасторы, моцна звязанай з патрэбамі рэпрэзентацыі статуса, за імі сталі даглядаць і ўтрымліваць у належным стане. Развівалася і сімвалічная мова могілак, якая напаўняла свой лексікон элементамі з рэнесансна-барочных хрысціянскіх традыцый зніклай Рэчы Паспалітай і са шляхецкага этасу. Геральдычныя знакі, хрысціянскія сімвалы, вайсковая атрыбутыка і элементы эстэтыкі рамантызму разам напаўнялі сусвет новых могілак.

Нельга казаць, што з самага пачатку яны былі насычаны пратэстнымі канатацыямі, што ў выкарыстанні іх чытаўся канфлікт. Калі мы і можам разгледзець прыкметы канфлікту ў сімволіцы надмагілляў ад падзелаў Рэчы Паспалітай да паўстання 1830 г., то гэта, хутчэй, універсальны канфлікт кансерватыўнага свету еўрапейскай арыстакратыі і новага буржуазнага свету XIX ст., прачытаны на ўзроўні сімволікі і сацыяльнай тапаграфіі. Маёнтак/могілкі, як перыферыя, аказаліся супрацьпастаўленыя гораду як месцу дамінавання чыноўнікаў і гандлёвай буржуазіі. Апошняе да таго ж мела моцны этнічны маркер "чужога" – габрэйскай культуры.

Зыходзячы з гэтага, можна сцвярджаць, што рэлевантнымі для апісання сітуацыі з'яўляюцца дзве лініі інтэрпрэтацыі. Першая – універсальная, якая разглядае сітуацыю з рэформай беларускіх могілак у кантэксце агульнаеўрапейскіх змен з арганізацыяй месцаў пахаванняў і, шырэй, агульнаеўрапейскіх сацыяльных змен XIX ст. У той жа час другая лінія акцэнтавана на паступовым узрастанні канфлікту паміж новымі ўладамі беларуска-літоўскіх зямель і старымі саслоўнымі элітамі. Другая лінія ўзмацнялася на працягу XIX ст., таму ёсць небяспека прызнаць яе галоўнай для інтэрпрэтацыі сітуацыі канца XVIII – пачатку XIX ст. Падобна таму, як антычныя храмы не ўзводзіліся для таго, каб іх руіны былі помнікамі зніклай цывілізацыі, хоць пазней менавіта так і адбылося, так і першыя надмагільныя помнікі на новых могілках яшчэ не станавіліся знакамі супраціву новым уладам, а капліцы-пахавальні павінны былі служыць сваім непасрэдным мэтам – быць родавымі маўзалеямі. Ніхто яшчэ не мог уявіць, што праз некалькі дзесяцігоддзяў іх часта будуць выкарыстоўваць як апошнія месцы, дзе магчымы рэгулярныя набажэнствы каталікоў пасля масавага закрыцця касцёлаў.

Прынцыповым, аднак, з'яўляецца тое, што ў часе рэформы месцаў пахавання была сфарміраваная *мова* некропаляў, былі выпрацаваныя асноўныя яе элементы, якія вывелі новыя некропалі з вобласці "нематы" іх папярэднікаў – прыхрамавых цвінтароў, якія амаль не захавалі па сабе памяці. Гэтая *мова* праявіла сябе як у тэкстах эпітафій, так і ў сімволіцы надмагілляў. Дзякуючы ёй, могілкі ўпершыню з'явіліся як значны элемент сацыяльнай тапаграфіі гарадоў і мястэчак і як важная форма самарэпрэзентацыі сацыяльных эліт.

З'яўленне могілак сучаснага тыпу – гэта не толькі фізічны працэс, але і акт семантычнага кшталтавання новага тыпу сацыяльнай прасторы, і менавіта ў гэтым палягае галоўнае значэнне рэформы месцаў пахавання канца XVIII – пачатку XIX ст.

## *Заўвагі*

1 Rozmus J., Gordziejew J. Cmentarz Farny w Grodnie 1792-1939. Kraków: Wydawnictwo naukowe SWP, 1999. S. 9–10.

2 Лісейчыкаў Дз. Штодзённае жыццё ўніяцкага парафіяльнага святара беларуска-літоўскіх зямель 1720–1839 гг. Мінск, 2011. С. 94–95.

3 Арьес Ф. Человек перед лицом Смерти. Москва: Прогресс, 1992.

4 Там же. С. 401.

5 Aries F. Rozważania o historii śmierci. Warszawa: Oficyna Naukowa, 2007. S. 187.

6 Vovelle M. Śmierć w cywilizacji Zachodu: od roku 1300 po współczesność. Gdańsk: "Słowo/Obraz Terytoria", 2004. S. 454–455.

7 Dominikowski J. Nekropolia Łodzi wielkoprzemysłowej. Cmentarz stary przy ulicy ogrodowej. Dzieje i sztuka 1854–1945. Łódź: Wydawnictwo konserwatorów dzieł sztuki, 2004. S. 17. ("Pierwsze polskie deklaracje administracyjne, dotyczące lokowania cmentarzy poza obrębem miasta wydała Komisja Policji Obojga Narodów – Królestwa Polskiego i Wielkiego Księstwa Litewskiego w dniu 18 lutego 1792 roku. Był to *Uniwersał do Miast Wolnych względem cmentarzy i szlachtuzów,* nakazujący bezzwłoczne urządzanie cmentarzy pozamiejskich w terminie trzech miesięcy"). Захады па правядзенні рэформы, аднак, спрабавалі рабіць і раней – у 1770 г. (гл. Rozmus J., Gordziejew. Cmentarz Farny… S. 9).

8 Полное собрание законов Российской Империи с 1649 года. [далей – ПСЗР] Т. 7. СПб., 1830. С. 130. (№ 4322)

9 ПСЗР. Т. 19. СПб, 1830. С. 500. (№ 13803)

10 Там же. С. 621 (№ 13901); С. 696 (№ 13931)

11 ПСЗР. Т. 34. СПб., 1830. С. 911. (№ 27180).

12 ПСЗР. Т. 35. СПб., 1830. С. 622. (№ 27581).

13 Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей – НГАБ). Ф. 136, воп. 1, адз.з. 3976. Справа аб атрыманні духоўнымі праўленнямі, манастырамі і благачыннымі ўказу Сінода аб забароне эксгумацыі і перапахавання трупаў (1816). Арк. 1г.

14 Арьес Ф. Человек перед лицом Смерти. С. 84–86; Schnitzler B. Chapelles-ossuaries // Rites de la mort en Alsace de la préhistoire à fin du XIX$^{e}$ siècle. Strasbourg: Musées de la ville de Strasbourg, 2008. S. 136–138.

15 Curl J.S. The Victorian celebration of death. London: Sutton Publishing, 2001. P. 38.

16 НГАБ. Ф. 136, воп. 1, адз.з. 877. Аб забароне Менскім губернскім праўленнем і кансісторыяй праводзіць пахаванні каля цэркваў і аб адвядзенні зямлі пад могілкі (1797). Арк. 2.

17 Тамсама. Арк. 9.

18 Rozmus J., Gordziejew J. Cmentarz Farny… S. 10.

19 Tyszkiewicz A. Widok kościoła katedralnego w Grodnie. Muzeum Narodowe w Krakowie. MNK III-ryc.-36934.

20 Johnston R. Travels through part of the Russian Empire and the Country of Poland. New-York, 1816. P. 347.

21 НГАБ. Ф. 136, воп. 1, адз.з. 12257. Аб будаўніцтве на могілках будынкаў для размяшчэння памерлых перад пахаваннем. 1837–1839 гг.

22 Тамсама. Арк. 40.

23 НГАБ. Ф. 136, воп. 1, адз.з. 10291. Аб забароне памешчыкам Ігуменскага павета ўніятам І. Грусвіцкім пахаваць на ўніяцкіх могілках в. Вярхалы Ігуменскага павета памерлага А. Салыгіна праваслаўнага веравызнання (1834–1835). Арк. 1.

24 НГАБ. Ф. 136, воп. 1, адз.з. 10076. Аб дазволе пахавання памерлых праваслаўнага веравызнання на ўніяцкіх і рыма-каталіцкіх могілках (1834). Арк. 1-1 адв.

25 Седакова О. А. Поэтика обряда. Погребальная обрядность восточных и южных славян. Москва: Индрик, 2004. С. 17.

26 Chomętowska Z. Polesie / Pod red. K. Puchała-Rojek. Warszawa: Archeologia Fotografii, 2011. S. 226; Беларусы ў фотаздымках Ісаака Сербава. 1911–1912 / Укл. В. А. Лабачэўская. Мінск: Беларуск. энцыкл. імя П. Броўкі, 2012. С. 213, 215.

27 Matušakaitė M. Išėjusiems atminti. Laidosena ir kapų ženklinimas LDK. Vilnius: Vilniaus dailės akademijo leidykla, 2009. S. 270–273.

28 Jel[ski] A. Uzda // SGKP, t. 12, s. 867.

29 НГАБ Ф. 1781, воп. 25, спр. 425. Візіт Уздзенскага касцёла Ігуменскага павету Мінскай губерніі за 1829 год. Арк. 2.

30 Кулагін А. М. Каталіцкія храмы Беларусі. Мінск: Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі, 2008.

31 НГАБ Ф. 1781, воп. 25, арк. 425. Візіт Уздзенскага касцёла … Арк. 2.

32 Тамсама.

33 Keister D. Stories in stone. A Field Guide to Cemetery Symbolism and Iconography. Salt Lake City: Gibbs Smith, Publisher, 2004. S. 15–16; падрабязней гл.: Curl J.S. Egyptomania: the Egyptian revival, a recurring theme in the history of taste. Manchester: Manchester University Press, 1994.